# ПАСТУШОК

Верш Я. ЖУРБЫ

Рысункі І. ДАВІДОВІЧА

Сонца толькі што ўзышло,
Шле наўкол сваё святло.
Над палямі—птушак хор;
Спевам поўніцца прастор.
Абуджаецца калгас,
Каб паспець на працу ўчас.
Вышаў з хаты пастушок—
І зайграў ён у ражок:



„Тру-гу-гу, тру-гу, тру-гу!..
Добра будзе на лугу
Сёння статку пагуляць,
Роснай траўкі пашчыпаць“.
І кароўкі ўміг яму
Адказалі: „Му-му-му!..
Будзем цэлы дзень гуляць,
Траўку, кветачкі шчыпаць.
Каб спачыць нам у цяньку,
Пабываем і ў гайку.
Там крыніца б'е струёй;
Будзем піць вадзіцу ў ёй.
А як скончыцца дзянёк,
Сонца знікне за лясок,—
У калгас мы вечарком
Прыдзем з смачным малачком“.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ

Май 1939 г. № 5.




НАРОДНАЯ КАЗКА

Было ў старога тры сыны. Старэйшы сын пайшоў у маракі, другі сын вывучыўся на аэраплане лятаць, а трэці сын пагранічную варту нёс.

Адслужыў старэйшы сын свой тэрмін, прыехаў героем. Апранут прыгожа, у істужках. Узрадаваліся бацька і маці і кажуць:

— Ты вось прыехаў, а тыя два яшчэ не адслужыліся.

Той, што быў на самалёце, таксама хутка прыляцеў. Спусціўся самалёт каля вёскі, і вышаў сярэдні сын. Апранут таксама добра, у скураным пінжаку, у шапцы скуранай. Прывітаўся. Узрадаваліся старыя і кажуць:

— Хоць-бы хутчэй малодшы прыязджаў!

А трэцяга сына няма ды няма. Усё на граніцы сын. Камандзіры вельмі яго любілі. Добра ведаў ён свае абавязкі, правілы выконваў. Убачыў ён раз: вораг граніцу пераходзіць. Трэці сын злавіў ворага жывым і да камандзіра прывёў. Ворагі, вядома, узлаваліся. Пачалі сачыць за трэцім сынам, напалі на яго неяк уначы, зацягнулі ў палон і пачалі выпытваць, колькі ў вас войска, ды дзе гэтыя войскі стаяць. Трэці сын кажа:

— Я пра тое нічога не ведаю. Я ведаю адну толькі сваю варту.

Не паверылі ворагі.

— Хлусіш!—кажуць,—паколькі ты салдат, павінен усё ведаць. Іначай мы цябе не адпусцім, а пакараем смерцю.

Трэці брат сказаў:

— Гэта справа ваша. А я ведаць нічога не ведаю. Нават калі-б і ведаў, дык усёроўна не сказаў-бы.

— Вось, значыць, ты які!—кажуць ворагі. І пачалі з яго здзекавацца, кінжаламі яго пароць і па-зверску катаваць.

Ён страціў шмат крыві, схіліў галаву і вось-вось памрэ, а нічога не сказаў. Бачаць ворагі—слова ад яго не даб'ешся, выкінулі яго назад за граніцу.

А браты ўсё чакаюць меншага ды думаюць: „Што гэта любы брат не з'яўляецца? Пара ўжо!“ І раптам пісьмо прыходзіць: „Загінуў ваш герой у руках ліхадзеяў“.

Доўга плакалі бацька і маці па ім, а брат, што на аэраплане лятаў, кажа флоцкаму брату:

— Паедзем да таварыша Сталіна, скажам: жадаем быць там, дзе загінуў наш брат.

Прыехалі да таварыша Сталіна, кажуць яму:

— Так і так, дарагі таварыш Сталін, жадаем мы адпомсціць злым ворагам за нашага брата.

Сталін кажа: добра, язджайце. І накіраваліся яны туды, дзе брат служыў. Прыляцелі на граніцу, сустракае іх пагранічны камандзір, кажа:

— Не засталі вы брата свайго жывым. Мы ўжо стараліся ратаваць, ды нічога не дапамагло. Навука яшчэ не дасягае. Толькі што брат ваш памёр.

Прышлі да яго браты, бачаць: увесь ён паранены, парэзаны. І пачалі браты па ім,

плакаць, а сярэдні брат, які на аэраплане лятаць навучыўся, сказаў:

— Трэба нам у горы злётаць. Там усякія крыніцы струменяць. І ёсць асаблівая крыніца з жывой вадой; ад гэтай вады загойваюцца раны, чалавек выздараўлівае.

Флоцкі брат кажа:

— Паляцім хутчэй. Знойдзем жывую крыніцу.

Селі на аэраплан, паімчаліся ў горы.

Прыляцелі. Пачалі крынічныя воды шукаць. Знайшлі маленькую крынічку. Вада ў ёй аж кіпіць, а сама, як лёд, халодная. Набралі яны вады дый думаюць: трэба яе праверыць. Толькі аб гэтым падумалі,—бач, заяц сядзіць. Нацэліліся ў зайца і забілі. Старэйшы брат і кажа:

— Зараз давай гэтага зайца выпрабуем: аджыве ён ці не?

І пачалі пырскаць на зайца вадой. Пырснулі ў рану, дзе куля была, пырснулі другі раз, а за трэцім разам—заяц заварушыўся, устрапянуўся. Ды як ускочыць! Ды як паімчыць!

Узрадаваліся браты. Набралі вады ў пузырок, селі на самалёт і вярнуліся да малодшага брата.

А той ляжыць нерухомы: не спіць, не дыхае. Пачалі яны на раны вадой пырскаць, а самі стаяць побач і плачуць.

Пырснулі раз, другі і бачаць: заплываюць раны, зацягваюцца.

Пырснулі трэці раз, брат заварушыўся, узняў галаву і сказаў ціха:

— Ох, браткі вы мае, як доўга я спаў!

А браты кажуць:

— Вечна-б табе спаць, каб не мы.

Камандзір адпусціў іх дадому. Язджайце, моў, адпачніце. І яны парашылі да бацькоў на аэраплане злётаць. Прыляцелі на радзіму, спусціліся каля вёскі, пайшлі да сваіх бацькоў. Народ, зразумела, ведаў, што меншы брат забіты, глядзіць, а меншы жывенькі. Толькі вельмі ўжо ён худы ды бледны, у твары ані крывінкі. Пабеглі людзі раней за братоў да старых:

— Вашы дзеткі ідуць. І меншы жывы, толькі вельмі худы.

Узрадаваліся маці і бацька, заплакалі. Родныя і худому рады.

Пражылі яны з тыдзень і кажуць:

— А зараз трэба да Сталіна. Паедземце, браткі, усе ўтраіх.

Бацька і маці кажуць:

— Вы хоць Ягора пакіньце.

— Не,—кажа Ягор,—я не застануся. Мне—да Сталіна.

Так і зрабілі. Селі ў аэраплан, паехалі. Прыязджаюць да Сталіна. Шлюць яму вестку.

Сталін, вядома, паклікаў іх у Крэмль, папрасіў сесці, запрапанаваў расказаць, як яны брата свайго ратавалі. Вельмі радаваўся Сталін, што вырататавалі Ягора, рукі ўсім паціскаў і казаў:

— Чаго-б вам ад мяне хацелася?

Меншы брат, які выздаравеў, адказаў:

— Жадаем усе ўтраіх не разлучацца, усім разам быць. Жадаем усе на Далёкім Усходзе на граніцы служыць.

Сталін адказаў ім:

— Няхай будзе так. Героям не адмовіш. Я такіх герояў вельмі паважаю і люблю.

Даў ён ім ордэны, і паехалі браты на граніцу.

Пайшоў меншы брат на варту, убачылі яго ворагі, крычаць:

— Эй, Ягор! Гэта ты?

— Я той самы,—кажа ён.

— Мы-ж цябе забілі,—здзівіліся яны.

Ягор адказвае:

— Як вы нас ні забівайце, мы зноў аджывем.

Пабеглі ворагі ў спалоху да сваіх начальнікаў дакладваць. Начальнікі насмерць перапалохаліся, за галаву хапаюцца:

— Гэта нікуды не вартая справа. Як-жа цяпер будзе, што-ж нам цяпер рабіць з імі? Выходзіць, што нам іх ніколі не знішчыць.



Я. ТАЙЦ.

Рысункі К. ГЕДДА.

# У ПАЛОНЕ Ў „ЧОРНАСКУРЫХ“

Гэтым летам я трапіў у палон да „чорнаскурых“. Справа была на поўдні. Я толькі што прыехаў і рысаваў ля мора падобную да мядзведзя скалу. А яны пад'ехалі на лодцы, ціхенька, без плёску, высадзіліся і прытаіліся за кіпарысамі.

Я падумаў:

„Я ім не перашкаджаю—і яны мяне не будуць чапаць“.

Але толькі я захлопнуў альбом, як яны выскачылі з засады. У голых карычневых руках яны хавалі каменні, цёмныя ногі блішчэлі на сонцы, у вачах гарэў незгасальны ваяўнічы агонь. Іх „правадыр“ выступіў наперад і бліснуў белымі зубамі.

— Мастак?

Доказы—альбом і фарбы—у наяўнасці, і я не стаў адпірацца.

„Чорнаскурыя“ пераможна закрычалі і закружыліся ў плясцы. Яны ўсе былі невысокага росту, мне па грудзі, і ў адзіночку я справіўся-б з любым з іх.

„Правадыр“ прадаўжаў:

— Мы хочам вас узяць у палон!

— Надоўга?

— Дзён на пяць.

— Мілыя, за што?

— За тое, што вы мастак. Наш лагерны захварэў. Тут Вялікі Касцёр на насу; трэба падрыхтоўку, трэба Кастровую пляцоўку ўпрыгожыць, трэба партрэты, трэба лозунгі, а ён уздумаў хварэць! Мы кінуліся—шукаем мастака па ўсяму ўзбярэжжу. І вось—знайшлі! Калі ласка, паедземце! Лагер наш—вось ён, пад Мядзведзь-гарой, блізенька. Калі ласка, паедземце!

І ўсе пачалі хорам паўтараць:

— Калі ласка, паедземце!

— Нічога не зробіш,—сказаў я,—толькі



На тонкай мачце замёр чырвоны сцяг. Лёг спаць і вецер. Змоўкла мора...

На ўзгорку (як і належыць у казцы) узвышаліся палаткі. Яны былі блакітныя, са стрэльчатымі вокнамі і разбянымі ганкамі. У палатках мёртвым сном спалі чорнаскурыя жыхары казачнай дзяржавы.

— Хто гэта вас усіх зачараваў?— ціха спытаў я.

— Гэта злая чараўніца Мёртвая гадзіна,—адказала важатая, — яна прыходзіць да нас кожны дзень пасля абеда...

Раптам зайгралі чараўнічыя трубы—і заспявалі птушкі, зашумела мора, захлопалі дзверы, прачнуліся чорнаскурыя рэбяты—піонеры і акцябраты. Яны шырока раскрывалі вочы:

— Як доўга мы спалі, Зіна?

— Сто год,—смяялася важатая.—Уставайце, соні, бяжыце на Кастровую, на Збор атрадаў, я мастака прывяла...

На каменных трыбунах Кастровай пляцоўкі размясцілася ўсё слаўнае племя „чорнаскурых“. Яны былі ў белым, і ад гэтага здаваліся яшчэ цямнейшымі. Зіна гучна і выразна сказала:

— Давайце думаць, чым упрыгожыць нашу Кастровую пляцоўку. У каго якія ідэі?

Шум пайшоў па трыбунах—нібы мора разбушавалася. Потым невысокі галавасты хлапчук падняў руку:

— Я хачу спытаць: мару можна нарысаваць?

— Якую мару?

— У нас ёсць такая мара,—растлумачыў хлопчык,—таму што мы часта марылі ў атрадзе, што вось быццам да нас прыехаў таварыш Сталін. І быццам ён сядзіць з намі тут, на трыбуне, а мы ўсе на яго глядзім. Вось у нашага атрада якая мара, і ці можна гэта нарысаваць?

Па трыбунах пракаціўся гул адабрэння. А калі ён заціх, звонка загаварыла дзяўчынка:

— У мяне такая карціна,—яна ўзмахнула выразанай з дзіцячага журнала старонкай:— нарысован таварыш Сталін, ён трымае маленькую дзяўчынку Гэлю. Таварыш Сталін

там у вас каменьчыкі... дык вы іх выкіньце! Я і так пайду!

Яны засмяяліся:

— Гэта-ж для калекцыі. Тут кварц, кальцыт, дыярыт... Хіба можна?.. Гэй, рэбяты, да лодкі! Бярыся за вёслы! Фанфарыст, трубі весялей!..

Яны павялі мяне да яліка, пасадзілі на карме, навалiлiся на вёслы—і мы панесліся па спакойнаму велічнаму мору.

Фанфарыст доўга глядзеў на мяне, потым усміхнуўся:

— Які вы... беленькі!

— Затое вы праз меру чорныя!

— Гэта тут сонца такое. Пажывеце з намі—і вы пачарнееце.—Спяем, рэбяты!

І рэбяты дружна заспявалі вясёлую піонерскую песню:

Мы на сонцы загарэлі.
Будзь гатоў—заўжды гатоў!
Нібы негры, пачарнелі.
Будзь здароў—заўжды здароў!

Дык вось хто ўзяў мяне ў „палон“ —піонеры. А „правадыр“, значыць, гэта іх важаты. Я пачаў падпяваць:

Мы здароўя набярэм.
Будзь гатоў—заўжды гатоў!
І дамоў яго звязем.
Будзь здароў—заўжды здароў!

Добра спяваецца на вадзе! Песня расце, шырыцца і мацнее, нібы над лодкай прасцёрся вялікі, поўны ветру парус!..

Мы прычалілі да прыстані і апынуліся ў казачным царстве. Яно было апанавана сном, нібы зачараванае. Ціха стаялі дзівосныя дрэвы: самшыт, туя, трымай-дрэва, міндаль...

так ветліва ўсміхаецца, а Гэля такая прыгожанькая, чарнявая. Ці можна так зрабіць, толькі каб замест Гэлі былі мы, наш атрад?

Зіна павярнулася да мяне:

— Таварыш паважаны „палонны“, як вы лічыце?

Я адказаў Вялікаму Сходу:

— Добра, таварышы, паспрабую нарысаваць вашу мару.

Перш за ўсё я пачаў рысаваць піонераў. Кучаравая украінка рагатуха Галя, стройны і спрытны кабардзінец Баразбі, вузкавокі карэец Пак, маўклівы ненец



Юфат, землячок Міша Куляшоў, тоўсташчокая, шумная Сара з Бірабіджана,—усе яны апынуліся ў мяне ў альбоме.

А жыў я ў скрыні!

Зіна ўсё ўгаварвала мяне перайсці ў вялікі дом, у прасторны пакой, але мне спадабалася скрыня. У ёй нядаўна прывезлі з Масквы сталічны падарунак—канцэртны раяль.

Рэбята смяяліся:

— Пасадзілі „палоннага“ ў скрыню!

Але розныя бываюць скрыні! Гэта была велізарная, як дом. Я паставіў яе ля самага мора, пакрыў блакітнай фарбай, навесіў дзверы, прабіў акно—і там стала вельмі добра. Увесь дзень за тонкай сцяной маёй „музыкальнай“ скрыні шумелі хвалі і піонеры. У акно ўрываўся марскі вецер і шуршаў паперай, нібы пытаўся:

— Як працуецца?

А хвалі то цягнуліся да акна, падсаджваючы адна адну, то стукалі галькай у дзверы:

— Як працуецца?

Ноччу зазіралі вялізныя зоркі, мігацелі з усіх сіл і таксама, я ўпэўнен, цікавіліся:

— Як працуецца?

А калі я заснуў, мне прыснілася цудоўная музыка—недарма-ж у маім „доме“ доўга жыў важны канцэртны раяль!

Абудзілі мяне горны, сонца і звонкі голас:

— Вы не спіце?

Гэта была Галя. Яна засунула кучаравую галаву ў акно і пакасілася на стол:

— Як працуецца?

— Нічога, дзякуй!

Я паказаў ёй чарнавы рысунак будучай карціны. Галя адразу-ж адшукала сябе сярод масы нарысаваных піонераў і засмяялася:

— Гэта я? Ой, смех! Толькі чаму-ж вы мяне так далёка? А не можна зрабіць мяне ў сярэдзінцы, каб таварыш Сталін трымаў мяне за руку? Як Гэлю!

— Чаму нельга?!—сказаў я.—Можна!

Яна пабегла шчаслівая. А я ўзяўся за алоўак. Працавалася лёгка, таму што ўсё—і радаснае ранішняе святло, і асаблівая свежасць, і салёны вецер, і сіні марскі прастор,—усё гэта было са мной заадно...



Раптам нейчы цень упаў на рысунак—гэта маленькі карэец Пак заглянуў да мяне, у мой фанерны „дом“.

— Добры дзень, калі ласка!—сказаў ён і пачмыхаў носам.

— Добры дзень! Што скажаш, Пак?

— Нічога... мая так...—Ён паглядзеў на мяне касымі, хітрымі вачыма.—Мая прышоў спытаць: можна мая зрабіць блізка ад Сталін? Калі ласка! Мая будзе гаварыць вялікі дзякуй!

Ён сарамліва ўсміхаўся і доўга і няўмела ўпрашваў мяне. Я не змог адмовіць яму. Я дастаў гумку і пачаў сціраць Галю, адцясняючы яе на задні план дзеля Пака.

Але нядоўга прышлося Паку радавацца! Самадзелкавыя дзверы хлопнулі, і ў мой „дом“, падобны да доміка Нюф-Нюфа з казкі „Тры парасёнкі“, уварвалася рыжая і шумная Сара:

— Таварыш мастак, што я вас хачу папрасіць! Зрабіце мяне блізка да таварыша Сталіна. Што вам, цяжка? Ну, зрабіце!

Я засмяяўся і пачаў было тлумачыць ёй, што... Але яна не слухала і ўсё ўгаварвала мяне. Прышлося ўступіць. І я зноў узяўся за гумку.

Але калі прышоў Юфат і пачаў доўга і ўпорна сапець за маёй спіной, я не вытрымаў:

— Ты чаго?

— Я-б... хацеў... мяне сюды...—і ён паказаў пальцам на тое месца, дзе ўжо была нарысавана Сара.

Не, я не вытрымаў і пабег да Зіны—няхай яна разбіраецца.

Увечары на Кастровай пляцоўцы зноў запоўніліся трыбуны. Зноў шумеў Вялікі Сход атрадаў. Зіна, размахваючы рукамі і хвалюючыся, гаварыла:

— Рэбята, так-жа нельга! Мастак адмаўляецца працаваць! Нельга-ж усіх рысаваць у сярэдзінцы, каля таварыша Сталіна. Вас-жа многа, трэба-ж разумець!

Вялікі Сход атрадаў доўга абмяркоўваў становішча і пастанавіў:

„Прасіць мастака зрабіць у вялікім выглядзе партрэт таварыша Сталіна з дзяўчынкай Гэляй, каб нікому крыўдна не было“.

А калі велізарны партрэт быў гатовы і мы змясцілі яго над трыбунамі і пачалі рыхтавацца да Вялікага Кастра, аказалася, што ў лагер прыехала сама Гэля.

Рэбята вельмі ўзрадаваліся. Яны прывялі Гэлю на Кастровую пляцоўку, паставілі пад партрэтам і ўсё глядзелі: падобна яна ці не падобна? Потым яе прымусілі амаль сто раз падрад расказваць пра тое, як яна была ў Крэмлі і як Сталін браў яе на рукі.

А я пачаў збірацца ў дарогу. Я вельмі шкадаваў, што „палон“ мой скончыўся і што пара пакінуць вясёлую, сонечную дзяржаву чорнаскурых піянераў...

---




Лавінаю грознай
Па плошчы Чырвонай
Ідуць батальёны, палкі.
А сцягі ірдзеюць—
Агнём палымнеюць.
Блішчаць залаціста штыкі.

Праходзяць калоны—
Стальныя калоны,
І песнямі поўніцца шыр.
Якая-ж, якая
Ты сіла стальная!
Цябе ўзгадаваў правадыр.
І коні, і танкі,
Ліхія тачанкі—
Усе ў адзіным страі.
І разам яны
Паімчацца
Змагацца,
Як грозныя грымнуць баі.

Вас. Габееў.



# ДЗВЕ СЯСТРЫЦЫ

(НАРОДНАЯ ПЕСНЯ)

Дзе з глыбокае крыніцы
ручайкі ліліся,
там сястрыцы-маладзіцы
пагуляць сышліся.

Пагулялі, паспявалі,
ягад назбіралі.
Пра шчаслівыя дзянёчкі
Сёстры размаўлялі.

Адна кажа: „Мае дзеці
сыты і адзеты,
у дзіцячы сад калгасны
ходзяць цэла лета“.

А другая: „Я не знаю
ані ў чым нястачы.
Маё сэрцайка жадае
Сталіна пабачыць“.

Рысунак В. ЦІХАНОВІЧА.

Апавяданне А. ЯКІМОВІЧА.
Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА.




# Упарты Сёма

I

Што Сёма заўзяты „кіношнік“, „каўбаснік“,—аб гэтым усе ведалі. Пра яго апавядалі самыя дзіўныя гісторыі, яму прыпісвалі і такія прыгоды, якія Сёму ніколі і не сніліся. Апавядалі, між іншым, нібыта ён адну кіно-карціну глядзеў дзевяць раз і ўсе дзевяць раз без білета. Гэтаму-то ўжо, праўда, хто не хацеў—не верыў.

Але што Сёма ўпарты,—выявілася толькі нядаўна.

Прытым выявілася яно ў час спаборніцтва класаў за пераходны чырвоны сцяг.

Пяты „А“ клас, у якім вучыўся Сёма, меў усе падставы заваяваць пераходны школьны сцяг. На калідорнай дошцы, дзе кожны дзень выстаўляліся да агульнага ведама адзнакі, за пятым „А“ класам увесь час лічылася менш дрэнных адзнак. Спярша іх было трыццаць адна, потым сышло на дваццаць, нарэшце, на трынаццаць. І, што важней за ўсё, восем дрэнных адзнак з гэтага ліку належала Сёму.

Цяпер Сёма не сыходзіў з языка. Гэтага ўжо цярпець ніяк нельга было. Увесь клас пакутуе з-за аднаго Сёмы.

Стараста класа Валя кожны дзень напамінала яму:

— Ты-ж губіш, рэжаш нас без нажа, Сёма. Падумай, што ты можаш нарабіць!.. Клас праз цябе, і толькі праз цябе—запомні!—можа не атрымаць пераходнага сцягу!

Сёма слухаў, чырванеў, а потым даваў урачыстае абяцанне, што сёння-ж засядзе за ўрокі.

Але назаўтра Сёма зноў атрымліваў „дрэнна“. Валя чуць не плакала, а ўвесь клас чуць не кідаўся на Сёму з кулакамі.

Да Сёмы прымацавалі некалькі лепшых вучняў. Але ім ні разу не ўдалося злавіць Сёму пасля ўрокаў. Яго нават не відаць было гэтыя дні і каля кіно.

Тады пра Сёму напісалі ў школьную насценгазету. У заметцы, якую напісаў класны дзяткор Геня, падрабязна апісваліся ўсе Сёмавы прыгоды. Пад заметкай школьны мастак рознымі фарбамі намаляваў Сёму такім, якім ён выводзіўся ў заметцы:—доўгі,


КАЎБАСНІК' СЁМА

як жэрдка, Сёма па-заліхвацку катаецца на „каўбасе“.

Сёма стаў вядомым усёй школе. У класе спадзяваліся, што цяпер-то ён ужо выправіцца.

Але Сёма не выправіўся. Наадварот, ён моцна пакрыўдзіўся, ды так, што перастаў нават гаварыць.

— Што ты сабе думаеш, Сёма?—загаварвала да яго Валя.

Сёма маўчыць, утаропіўшыся ў падлогу або ў сцену.

## II

І вось у такі час агульнага адчаю прышло пісьмо з пятага „А“ класа адной украінскай школы. З гэтай школай вучні пятага „А“ класа даўно вядуць перапіску. Яны пасылаюць ім спісы з прозвішчамі і падрабязнымі адзнакамі паспяховасці кожнага вучня, дзеляцца вопытам. І, вядома, атрымліваюць такія-ж пісьмы ад украінскіх рэбят.

На гэты раз у пісьмо быў укладзены асобны невялікі лісток. Ён-то і прывёў у незвычайны рух увесь клас і заўладаў на нейкі час увагаю ўсіх школьнікаў.

Старанным почаркам, акуратна, без адной плямы, у лістку было напісана:

„Добры дзень, Сёма Гулькін! Пішa табе Жора Ахрыменка. Наш клас даўно цябе ведае, і я таксама. Але ведаем мы цябе, як самага горшага вучня ў вашым класе. Апошняе пісьмо вашага класа мы чыталі калектыўна на вялікай пераменцы. Усе гаварылі пра цябе і... пра мяне. Не дзівіся, чаму „і пра мяне“? Справа ў тым, што я табе таварыш па няшчасцю. У мяне, праўда, менш дрэнных адзнак, чым у цябе, але таксама хапае. І вось мне прышла думка—выклікаць цябе, Сёма, на спаборніцтва. Навошта нам быць горшымі вучнямі? Мы можам, калі шчыра захочам, быць лепшымі вучнямі. Давай, Сёма, спаборнічаць! Калі ты згодзен і выклік мой прымаеш—напішы хутчэй. Чакаю адказу не толькі я, а і ўвесь наш клас.

*Жора Ахрыменка*“.

Радасная Валя прачытала пісьмо ўсяму класу і тут-жа ўрачыста паднесла яго адрасату.

— Сёма, мы чакаем адказу,—сказала яна.—Сёма, не губі нас... Ты разумееш,—пра цябе гавораць украінскія нашы таварышы...

Валя хацела сказаць пры гэтым цэлую прамову пра вялікі абавязак, які ўскладае на Сёму гэта пісьмо, але Сёма моцна запыхкаў, і Валя спыніла сваё красамоўства.

Сёма ўзяў пісьмо, паглядзеў на яго недаверліва і, недалікатна скамячыўшы, паклаў у кішэню.

— Сёма, не падкачай!

— Сёма, будзь другам!—наперабой сыпаліся з усіх бакоў парады.

А Сёма стаяў, панурыўшы галаву і маўчаў.



## III

Мінуў дзень, другі—Сёма маўчаў.

Валя ўсе гэтыя дні больш чым калі хвалявалася, але напамінаць Сёму не адважвалася.

Сёмава маўчанне з кожным днём рабілася ўсё больш нясцерпным і немагчымым. Валя падышла ўсё-ж да яго і, стрымліваючы сябе ад злосці на Сёму, сказала ласкава:

— Сёма! мы заўтра пасылаем пісьмо украінскім рэбятам. Мы яго не можам паслаць без твайго адказу Жору Ахрыменка. У цябе гатоў адказ?

Сёма паглядзеў безуважна на Валю, запыхкаў злосна і прагаварыў:

— Не гатоў...

Гэта было першае яго слова пасля доўгай маўчанкі.

— А назаўтра ты падрыхтуеш?—так-жа па-сяброўску спыталася Валя, адкрыта гледзячы Сёму ў вочы.

Сёма хацеў вытрымаць гэты погляд, але не мог, разгублена заміргаў і глуха адказаў:

— Не ведаю...

— Сёма, мы чакаем,—зрываючыся з спакойнага тону, прагаварыла Валя.

IV

Назаўтра, прышоўшы пазней за другіх у школу, Валя знайшла ў сваёй парце запіску. У ёй было напісана:

„Добры дзень, Жора Ахрыменка!

Твой выклік я прымаю. Надаела быць горшым вучнем. Спачатку мне гэта нават падабалася: пра цябе гавораць, цябе ўсе ўпрашваюць, табе гатовы зрабіць нямаведама што... Словам, ты—герой. Але цяпер я добра разабраўся, які я герой: упарты ішак, а не герой. Мне так брыдка стала, як прачытаў тваё пісьмо. Значыць, мяне ведаюць і лаюць і ў вашай украінскай школе. І я парашыў дабіцца таго, каб мяне ведалі і хвалілі ў вашай школе, а цябе—у нашай. Праўда, Жора?

*Сёма Гулькін*“.

Валя вачам сваім не верыла. Не можа гэтага быць! Тут нейкае непаразуменне: проста нехта пажартаваў.

Валя яшчэ раз прачытала запіску—усё было, здавалася, шчыра і падобна на праўду. Але-ж, калі гэта пісаў Сёма, чаму-б яму не перадаць самому, а падкідаць у парту? Валя стала прыпамінаць Сёмаў почарк, і ніяк не магла ўявіць яго. Вось ён, высокі, худы, стаіць каля дошкі і піша. Літары крывыя, расплываюцца ў розныя бакі, і іх не відаць...

У гэты час зазвінеў званок. У клас шумна пасыпалі з карыдора вучні. Валя сядзела за партай з пісьмом у руках і лавіла вачыма Сёму. Ён зайшоў апошнім. Валя ўсхапілася, перагарадзіўшы яму дарогу.

— Сёма, гэта ты?—паказала яна пісьмо.

Сёма спыніўся, абвёў Валю вачыма, потым усміхнуўся, пачырванеўшы:

— Не верыш?

Валя падскочыла, схапіла Сёму за шыю і ледзь не задушыла яго ад радасці.

— Дык ты не жартуеш?

— Не, не,—адмахваўся разгублены Сёма.

У клас зайшоў настаўнік мовы.

— Што я бачу!—развёў ён рукамі.— Ай-ай! Як вам не сорамна абнімацца!

— Нічога вы не бачыце, Гаўрыла Трафімавіч!—задорна крыкнула Валя, выпусціўшы, нарэшце, з абдымкаў збянтэжанага Сёму.— Вы нічога, нічога не бачыце!..—Валя трэсла пісьмом і моцна на ўвесь клас крычала:

— Вы нічога не бачыце! Я вам пакажу!

— Валя, садзіся на месца!—строга сказаў настаўнік.



— Не магу, Гаўрыла Трафімавіч, дазвольце зачытаць, тады сяду...

Настаўнік быў збіты з панталыку такімі паводзінамі Валі.

— Цяпер-жа заняткі...—хацеў ён растлумачыць ёй, але Валя не слухала яго і пачала чытаць.

Калі яна скончыла, увесь клас задрыжэў ад воплескаў. Гаўрыла Трафімавіч, расплыўшыся ад шчаслівай усмешкі, апладыраваў мацней за ўсіх.

— Вось за гэта—герой, Сёма! Маладзец!— паўтараў ён. А потым спахапіўся, глянуў на гадзіннік:

— Ды вы-ж мне цэлых сем хвілін урвалі! Ша! Ні гуку!

І Гаўрыла Трафімавіч, схапіўшы кавалак крэйды, стаў пісаць на дошцы прыклад чарговага граматычнага правіла.

# НАШЫ ЭКСПАНАТЫ

У жніўні месяцы гэтага года ў Маскве адкрываецца Ўсесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка. На выстаўцы будуць паказаны дасягненні нашай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Побач з экспанатамі калгасаў, соўгасаў і МТС, на выстаўцы будуць прадстаўлены і лепшыя экспанаты піонераў і школьнікаў.



Юнаты Віцебскага батанічнага сада састаўляюць калекцыю дубовага шоўкапрада.

## Мой вопыт

### з моркаўкай

Я ўзяла моркаўку кантскага сорту, абрэзала трэцюю частку ад хваста, абрэз пасыпала попелам, каб не было загнівання, і пасадзіла на дзялянцы. А побач—на другой дзялянцы я пасадзіла неабрэзаную моркаўку. Даглядала іх аднолькава. Абрэзаная моркаўка раней выпусціла пабегі, на ёй хутчэй развіліся мачкаватыя карэньчыкі і хутчэй яна замацавалася. У выніку з гэтай дзялянкі я атрымала значна больш насення, чым з другой дзялянкі. У гэтым годзе я пастараюся дабіцца яшчэ лепшых вынікаў.

Шура Несцерава. Менск, 9-я школа.

## Як мы засушвалі кветкі

Засушваць кветкі можна ў скрынках або ў вазонах. Для гэтага трэба ўзяць рачны пясок—чыста вымыты і высушаны на сонцы. Усё выйдзе добра, калі рабіць удваіх. Адзін павінен трымаць кветку, а другі акуратна засыпаць яе пяском. Пры гэтай рабоце абавязкова трэба быць уважлівым, каб не пашкодзіць кветкі і яе лісцяў. Засушаная кветка павінна праляжаць не менш дзесяці дзён. Нельга яе чапаць раней часу—яна можа хутка абсыпацца. Добра высушаная кветка будзе стаяць шмат год, не трацячы колеру. Я і яшчэ мае таварышкі Вера Лешына, Ніна Кротава і Фіра Вараненак высушылі адзін такі букет кветак. Атрымаўся ён вельмі прыгожы. Наш букет прынялі на Ўсесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Люда Шэйніс. г. Віцебск.



Іна Смольнікава, Эра Эльтэрман, Валя Сокалава і Рыта Палянская састаўляюць букет з спецыяльна засушаных кветак.

А. П. ЧЭХАЎ



# Спаць хочацца

Рысункі А. КОСАКОЎСКАГА.

Ноч. Нянька Варка, дзяўчынка гадоў трынаццаці, калыша калыску, у якой ляжыць дзіця, і ледзь чутна мармыча:

Баю-баінькі-баю
А я песеньку спяю...

Перад абразом гарыць зялёная лампадка; праз увесь пакой ад кута да кута цягнецца вяроўка, на якой вісяць пялёнкі і вялікія чорныя панталоны. Ад лампадкі лажыцца на столь вялікая зялёная пляма, а пялёнкі і панталоны кідаюць доўгія цені на печ, калыску, на Варку... Калі лампадка пачынае міргаць, пляма і цені ажываюць і варушацца, як ад ветру. Духата. Пахне баршчом і шавецкім таварам.

Дзіця плача. Яно даўно ўжо асіпла і змаглося ад плачу, але ўсё яшчэ крычыць, і невядома, калі яно супакоіцца. А Варцы хочацца спаць. Вочы яе зліпаюцца, галаву цягне ўніз, шыя баліць. Яна не можа варухнуць ні павекамі, ні губамі, і ёй здаецца, што твар яе высах і здзервянеў, што галава стала маленькай, з макавае зерня.

— Баю-баінькі-баю,—мармыча яна,—табе кашкі навару...

У печцы крычыць цвыркун. У суседнім пакоі, за дзвярыма, храпуць гаспадар і чаляднік Апанас... Калыска жаласна скрыпіць, сама Варка мармыча—і ўсё гэта зліваецца ў начную музыку-калыханку, якую так соладка слухаць, калі кладзешся ў пасцель. Цяпер-жа гэта музыка толькі раздражняе, таму што яна наганяе дрымоту, а спаць нельга: калі Варка, не дай бог, засне, дык гаспадары заб'юць яе.

Лампадка міргае. Зялёная пляма і цені варушацца, лезуць у прыплюшчаныя Варкіны вочы, і ў яе напалавіну сонных мазгах складваюцца ў туманныя мары. Яна бачыць цёмныя хмары, якія ганяюцца адна за другой па небе і крычаць, як дзеці. Але вось падзьмуў вецер, зніклі хмары, і Варка бачыць шырокае шасе, пакрытае рэдкаю гразёю; па шасе цягнуцца абозы, паўзуць людзі з клумкамі на спінах, носяцца ўзад і ўперад нейкія цені; па абодва бакі скрозь халодны, суровы туман відаць лясы. Раптам людзі з клумкамі і ценямі падаюць на зямлю ў рэдкую гразь.—„Для чаго гэта?—пытаецца Варка.—„Спаць, спаць!"—адказваюць ёй. І яны засынаюць моцна, спяць соладка, а на тэлеграфных дротах сядзяць вароны і сарокі, крычаць, як дзіця, і стараюцца іх пабудзіць.

— Баю-баінькі-баю, а я песеньку спяю...—мармыча Варка і ўжо бачыць сябе ў цёмнай хаце, дзе такая духата.

На падлозе варочаецца яе нябожчык-бацька Ефім Сцяпанаў. Яна не бачыць яго, але чуе, як ён качаецца ад болю па падлозе і стогне. У яго, як ён кажа, „разгулялася грыжа". Боль такі вялікі, што ён не можа вымавіць ніводнага слова і толькі ўцягвае ў сябе паветра і адбівае зубамі барабанны дроб:

— Бу-бу-бу-бу...

Маці Палагея пабегла ў маёнтак да паноў сказаць, што Ефім памірае. Яна даўно ўжо як пайшла і пара-б ёй вярнуцца. Варка ляжыць на печы, не спіць і прыслухоўваецца да бацькавага „бу-бу-бу". Але вось чуваць, як нехта пад'ехаў да хаты. Гэта паны прыслалі маладога доктара, які прыехаў да іх

з горада ў госці. Доктар уваходзіць у хату; яго не відаць у цемры, але чуваць, як ён кашляе і бразгае дзвярыма.

— Запаліце агонь,—кажа ён.

— Бу-бу-бу...—адказвае Ефім.

Палагея кідаецца да печы і пачынае шукаць чарапок з запалкамі. Праходзіць хвіліна ў маўчанні. Доктар, пашукаўшы ў кішэнях, запальвае сваю запалку.

— Зараз, бацюхна, зараз,—кажа Палагея, кідаецца вон з хаты і, крыху счакаўшы, варочаецца з агаркам.

Шчокі ў Ефіма ружовыя, вочы блішчаць і погляд неяк асабліва востры, нібы Ефім бачыць наскрозь і хату, і доктара.

— Ну, што? Што ты гэта ўздумаў?—кажа доктар, нагінаючыся да яго.—Эге! Даўно гэта ў цябе?

— Што кажаце? Паміраць, ваша благароддзе, прышоў час... Не жыць мне болей...

— Ну, што ты... Вылечым!

— Гэта як ваша міласць пажадае, ваша благароддзе, дзякуем пакорліва, а толькі мы разумеем... Калі смерць прышла, што ўжо тут зробіш.

Доктар з чвэрць гадзіны аглядае Ефіма; потым устае і кажа:

— Я нічога не магу зрабіць... Табе трэба ў больніцу ехаць, там табе аперацыю зробяць. Зараз-жа трэба ехаць... Абавязкова ехаць! Трошкі позна, у больніцы ўсе ўжо спяць, але гэта нічога, я табе запісачку дам. Чуеш?

— Бацейка, ды на чым-жа ён паедзе?—кажа Палагея.—У нас няма каня.



— Нічога, я папрашу паноў, яны дадуць каня.

Доктар выходзіць, свечка тухне і зноў чуваць „бу-бу-бу“...

З поўгадзіны счакаўшы, да хаты нехта пад'язджае. Гэта паны прыслалі падводу, каб ехаць у больніцу. Ефім збіраецца і едзе...

Але вось настае сонечная ясная раніца. Палагеі няма дома: яна пайшла ў больніцу даведацца, што робіцца з Ефімам. Дзесьці плача дзіця, і Варка чуе, як нехта яе голасам спявае:

— Баю-баінькі-баю, а я песеньку спяю.

Варочаецца Палагея; яна хрысціцца і шэпча:

— Уночы ўправілі яму, а пад раніцу богу душу аддаў... Царства нябеснае, вечны спакой... Кажуць, позна захапілі... Трэба было-б раней.

Варка ідзе ў лес і плача там, але раптам хтосьці б'е яе ў патыліцу так моцна, што яна стукаецца ілбом аб бярозу. Яна ўзнімае вочы і бачыць перад сабою гаспадара-шаўца.

— Ты што-ж гэта, паршыўка?—кажа ён.—Дзіця плача, а ты спіш?

Ён балюча круціць яе за вуха, а яна трасе галавой, калыша калыску і мармыча сваю песню. Зялёная пляма і цені ад панталон



і пялёнак мітусяцца, міргаюць ёй і неўзабаве зноў яна забываецца аб усім. Зноў бачыць шасе, пакрытае рэдкаю гразёю. Людзі з клумкамі на спінах у цяні разлягліся і моцна спяць. Гледзячы на іх, Варцы страшэнна хочацца спаць; яна лягла-б з вялікім задавальненнем, але маці Палагея ідзе поруч і падганяе яе. Абедзве яны спяшаюцца ў горад наймацца.

— Падайце бедным, няшчасным, калі ваша ласка!—просіць маці ў сустрэчных.— Зрабеце боскую міласць, паночкі міласэрныя!

— Падай сюды дзіця!—адказвае ёй нечый знаёмы голас.—Падай сюды дзіця!—паўтарае той-жа голас, але ўжо злосна і рэзка.— Спіш, падлюга?

Варка ўсхватваецца і, аглянуўшыся, разумее, у чым справа: няма ні шасе, ні Палагеі, ні сустрэчных, а стаіць сярод пакойчыка адна толькі гаспадыня, якая прышла пакарміць сваё дзіця. Пакуль тоўстая, плячыстая гаспадыня корміць і супакойвае дзіця, Варка стаіць, глядзіць на яе і чакае, калі яна скончыць. А за вокнамі ўжо сінее паветра, цені і зялёная пляма на столі ўвачавідкі бялеюць. Хутка раніца.

— Вазьмі!—кажа гаспадыня, зашпільваючы на грудзях сарочку.—Плача. Мусіць, ураклі.

Варка бярэ дзіця, кладзе яго ў калыску і зноў пачынае калыхаць. Зялёная пляма і цені павольна знікаюць, і ўжо няма каму лезці ў яе галаву і туманіць мазгі. А спаць хочацца як і раней, так хочацца! Варка кладзе галаву на край калыскі і калышацца ўсім тулавам, каб перамагчы сон, але вочы ўсё-такі зліпаюцца і галава цяжкая.

— Варка, падпалі ў печы!—чувацца за дзвярыма голас гаспадыні.

Значыць, пара ўжо ўставаць і брацца за работу. Варка пакідае калыску і бяжыць у хлеў па дровы. Яна рада. Калі бегаеш і ходзіш, спаць ужо не так хочацца, як седзячы. Яна прыносіць дровы, запальвае ў печы і адчувае, як выпростваецца яе здзервянелы твар і як яснейшымі становяцца думкі.

— Варка, пастаў самавар! — крычыць гаспадыня.

Варка коле лучыну, але толькі паспявае запаліць яе і сунуць у самавар, як чуецца новы загад:

— Варка, пачысці гаспадару галошы!

Яна садзіцца на падлогу, чысціць галошы і думае, што добра было-б сунуць галаву ў вялікую, глыбокую галошу і падрамаць у ёй крыху... І раптам галоша расце, пухне, запаўняе сабою ўвесь пакой, Варка выпускае з рук шчотку, але ў той-жа міг трасе галавою, шырока раскрывае вочы і стараецца глядзець так, каб прадметы не раслі і не варушыліся ў яе вачах.

— Варка, памый знадворку лесніцу, а то перад заказчыкамі брыдка!

Варка мые лесніцу, прыбірае пакоі, потым раскладае агонь у другой печы і бяжыць у краму. Работы шмат, няма ніводнай хвіліны вольнай.

Але нішто так не цяжка, як стаяць на адным месцы перад кухонным сталом і чысціць бульбу. Галаву цягне да стала, бульба стракаціцца ў вачах, нож вывальваецца з рук, а поплеч ходзіць тоўстая, злосная гаспадыня, з закасанымі рукамі і гаворыць так моцна, што звініць у вушах. Пакутна таксама прыслужваць у час абеду, мыць, шыць. Бываюць хвіліны, калі хочацца, ні на што не гледзячы, паваліцца на падлогу і спаць.

Дзень мінае. Гледзячы, як цямнеюць вокны, Варка сціскае сабе дзервянеючыя віскі і ўсміхаецца, сама не ведаючы, ад якой прычыны. Вячэрні змрок ласкоча яе сонныя вочы і абяцае ёй хуткі, моцны сон. Увечары да гаспадароў прыходзяць госці.

— Варка, стаў самавар!—крычыць гаспадыня.

Самавар у гаспадароў маленькі, і раней, чым госці напіваюцца чаю, прыходзіцца падаграваць яго разоў пяць. Пасля чаю Варка стаіць цэлую гадзіну на адным месцы, глядзіць на гасцей і чакае загадаў.

— Варка, збегай купі тры бутэлькі піва!

Яна зрываецца з месца і стараецца бегчы хутчэй, каб прагнаць сон.



— Варка, збегай па гарэлку! Варка, дзе штопар? Варка, пачысці селядца!..

Але вось, нарэшце, госці пайшлі; агні тушацца, гаспадары кладуцца спаць.

— Варка, пакалышы дзіця!—чуецца апошні загад.

У печы крычыць цвыркун; зялёная пляма на столі і цені ад панталон і пялёнак зноў лезуць у поўрасплюшчаныя Варкіны вочы, міргаюць і туманяць ёй галаву.

— Баю-баінькі-баю, — мармыча яна,— а я песеньку спяю...

А дзіця крычыць і аж заходзіцца ад крыку. Варка бачыць зноў гразкае шасе, людзей з клумкамі, Палагею, бацьку Ефіма. Яна ўсё разумее, усіх пазнае, але скрозь дрымоту яна не можа толькі ніяк зразумець той сілы, якая сціскае яе рукі і ногі, душыць яе і перашкаджае ёй жыць. Яна аглядаецца, шукае гэтую сілу, каб пазбавіцца ад яе, але не знаходзіць. Нарэшце, змардаваўшыся, яна напружвае ўсю сілу і зрок, глядзіць уверх на міргаючую зялёную пляму і, прыслухоўваючыся да крыку, знаходзіць ворага, што перашкаджае ёй жыць.

Гэты вораг—дзіця.

Яна смяецца. Ёй дзіўна: як гэта раней яна не магла зразумець такой пустой справы? Зялёная пляма, цені і цвыркун таксама, здаецца, смяюцца і здзіўляюцца.

Ілжывае ўяўленне захапляе Варку. Яна ўстае з табурэта і, шырока ўсміхаючыся, не міргаючы вачыма, пачынае хадзіць па пакоі. Ёй прыемна і шчыкотна ад думкі, што яна зараз пазбавіцца ад дзіцяці, якое звязвае яе і не дае ёй жыць... Забіць дзіця, а потым спаць, спаць, спаць...

Смяючыся, падміргваючы і пагражаючы зялёнай пляме пальцамі, Варка падкрадваецца да калыскі і нахіляецца да дзіцяці. Задушыўшы яго, яна хутка кладзецца на падлогу, смяецца ад радасці, што ёй можна спаць, і праз хвіліну спіць ужо моцна, як мёртвая...




Верш Эдзі Агняцвет

Мне пяць год,
а клічуць дзеткай,
Не люблю, як так завуць!
У мяне вусы за лета,
Як у папы адрастуць.
Я тады паеду ў горы,
Паплыву праз акіян,
Новае адкрыю мора,
Буду звацца я—Іван.
Паступлю вучыцца ў школу,
Скажуць дзеці—ён не трус!
І разумны, і вясёлы,
Хоць яшчэ кароткі вус.

Знаю,—ў клас не пусціць папа,
Скажа—„Ваня, пачакай“.
Я надзену папы шляпу,
Паспрабуй,—мяне стрымай!

Мне пяць год,
а клічуць дзеткай,
Не люблю, як так завуць!
У мяне вусы за лета
Як у папы адрастуць.



---




(НАРОДНАЯ ПЕСНЯ)

Эх, лянок ты наш кудравы,
Валакністы даўгунец!
Ты расці, расці на славу,
Сінявокі маладзец!

Мы цябе ўсе даглядаем,
Каб дзяржаве добрым здаць
І ў рэспубліцы савецкай
Пяршынство заваяваць.

Мы цябе, лянок, ачысцім,
Люба будзе паглядзець!
Ты расці, расці на славу,
Сінявокі маладзец!

# ЛІСІЦА І КАЗЁЛ

КАЗКА



Бяжыць лісіца, заглядзелася на варон— і трапіла ў студню. Вады ў студні было мала: утануць нельга, ды і выскачыць таксама нельга. Сядзіць лісіца, бядуе.

Ідзе казёл, разумная галава; ідзе, барадзішчай трасе, ражышчамі матае; заглянуў ад



няма чаго рабіць у студню, убачыў там лісіцу і пытаецца: „Што ты там, лісічка, параблiяеш?"—„Адпачываю, галубок,—адказвае лісіца,—там, наверсе, горача, дык я сюды і забралася. А тут цянёк ды і так вельмі добра. Вадзіцы халоднай—колькі хочаш".



А казлу даўно піць хочацца. „Ці добрая вада там?"—пытаецца казёл. „Лепшай не трэба,—адказвае лісіца,—чыстая, халодная! Скакай сюды, калі хочаш; тут абодвум месца хопіць".

Скокнуў здуру казёл,—ледзь лісіцу не задушыў, а яна яму: „Эх, барадаты дурань,



нават скокнуць не ўмеў—усю апырскаў!" Ускочыла лісіца казлу на спіну, са спіны на рогі, ды і вон са студні.

А казёл астаўся ў студні, ледзь там з голаду не прапаў; насілу яго потым адшукалі ды за рогі выцягнулі.



Цана 30 кап.



*Забаўны малюнак*

# ВЯЧОРКА Ў ЛЕСЕ

Як у лесе на палянцы,
Сосны дзе старыя,
Пазбіраліся на танцы
Жыхары лясныя.

Пачынаць пастанавілі
Без шуму і крыку.
На пянёчку пасадзілі
Мішука—музыку.

Заказалі ўсе „страданне“.
Мішка пачынае—
Бярэ тоны на баяне,
Басам падпявае.

Збоку ліска за гітарай,
Пот руччамі льецца,
А навокал круцяць пары,
Аж зямля трасецца.

Весяліліся заўзята
Да самага рання
І ўжо спаць пайшлі дахаты
Позна на світанні.

В. Мінецкі. Чашнікі.

Рэдактар І. МАСАРСКІ Афармленне В. Ціхановіча Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.
Друкарня імя Сталіна, Менск. 20.000 экз Зак. № 618. 2½ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № П—320.